*Беларускае замежжа*

## Дэманстрацыя ў Нью-Йорку

Як падае газета «Свабода», у нядзелю 22 кастрычніка на пляцы Гамэршэльда каля будынка ААН, дзе ў гэты дзень выступаў і Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, адбылася дэманстрацыя амерыканскіх беларусаў. Яе арганізавалі дванаццаць беларуска-амерыканскіх і адна беларуска-канадская арганізацыі: Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне, Беларускі кангрэсавы Камітэт Амерыкі, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, сусветнае Згуртаванне беларускіх яўрэяў, Згуртаванне беларусаў Канады ды іншыя. Усе яны стварылі кааліцыю дзеля абароны дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, якая наладзіла гэтую дэманстрацыю.

На яе сабралася каля 200 амерыканскіх беларусаў з бел-чырвона-белымі і амерыканскімі сцягамі. Некаторыя дэманстранты былі ў беларускіх нацыянальных строях. Цягам двухгадзіннай дэманстрацыі прадстаўнікі кааліцыі давалі інтэрв'ю і распаўсюджвалі інфармацыю пра ўціск свабодаў у Беларусі, спявалі беларускія патрыятычныя песні.

Прадстаўнікі Канфедэрацыі амерыканскіх прафсаюзаў, дырэктар вашынгтонскага Інстытута свабодных прафсаюзаў спадар Пол Самаджы зачытаў перад дэманстрантамі заяву Амерыканскай канфедэрацыі працы ў абарону свабодных прафсаюзаў Беларусі, забароненых Аляксандрам Лукашэнкам. Быў прыняты Зварот да дэмакратычных урадаў свету з просьбай дапамагчы беларускім дэмакратам абараніць суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Пасля дэманстрацыі беларусы калонай прайшлі па вуліцах Нью-Йорка, прыцягваючы ўвагу жыхароў горада і карэспандэнтаў, якія далі паведамленні пра гэтую падзею амаль ва ўсе уплывовыя газеты.

*У сусвеце*

## Квэбек хоча аддзяліцца ад Канады

Канада — адна з самых заможных і прывабных краін у Заходнім свеце. Яе жыхары жывуць лепш, чым у Злучаных Штатах Амерыкі, хоць яны суседзі і ў многім падобныя. Здавалася б, чаго яшчэ людзям трэба? Але вось жа Квэбек — адна з дзесяці канадыйскіх правінцый з насельніцтвам крыху болей за 7 мільёнаў чалавек — праводзіць рэферэндум з мэтай аддзялення. Галоўным чынам таму, што тут значная частка жыхароў ніяк не можа забыць сваё французскае паходжанне (з Францыі сюды перасяліліся іхнія продкі) ды тое, што ў адну краіну іх некалі аб'яднала англійская вайсковая сіла.

А спачатку, у сярэдзіне 70-х гадоў, квэбекцы адваявалі права на дзяржаўны статус французскай мовы і Канада афіцыйна стала двухмоўнай. Усё дзяржаўнае справаводства абавязкова вядзецца на англійскай і французскай мовах. Радыё і тэлебачанне — таксама двухмоўнае. Тым не меней ідэя сепаратызму набірае моц і знаходзіць падтрымку ўрэшце ў 50-ці з лішкам адсоткаў (працэнтаў) квэбекцаў. Так што не такая гэта ўжо бяскрыўдная рэч нават для багатай краіны — увядзенне афіцыйнага двухмоўя. Загадка нацыянальнага застаецца.

Рашуча тым часам выказаліся супраць падзелу Канады яе карэнныя жыхары, якіх прынята называць індзейцамі. У адрозненне ад ЗША тут да іх ставяцца з вялікай павагай, і яны традыцыйна карыстаюцца палітычным уплывам, які пераўзыходзіць колькасць самых індзейцаў, чые правадыры кажуць «аддзяленцам»-сепаратыстам, што калі іхнія продкі прыехалі ў Канаду з Францыі і з іншых краін у пошуках заробку, то зямлю з сабою ў торбах не прывезлі.

**Ул.Ас.**

*Руплівцы беларушчыны*

## Ад продкаў пачатак

Як старога энцыклапедыста так і цягне мяне даць біяграфію юбіляра ў выглядзе сціслага энцыклапедычнага артыкула. Няхай так і будзе: БОЛСУН Аляксандр Іванавіч (н. 4.11.1935, г. Чачэрск Гомельскай вобл.), бел. фізік. Канд. фіз. - мат. н. (1967), дац. (1976). Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1959), аспірантуру (1962—64) Ін-та фізікі АН Беларусі. У 1967—71 і з 1993 у выд-ве Беларуская Энцыклапедыя. У 1972—93 на выкладчыцкай рабоце (Менскі радыётэхнічны ін-т, Менскі пед. ін-т). Навук. працы па фізіцы элементарных часціц, методыцы выкладання фізікі ў ВНУ, пытаннях распрацоўкі бел. фізічнай тэрміналогіі. Аўтар першага на бел. мове «Слоўніка фізічных і астранамічных тэрмінаў» (вуч. дапаможнік для школьнікаў, 1979, з Я. Н. Рапановічам), «Руска-беларускага фізічнага слоўніка» (1993), «Кароткага слоўніка фізічных тэрмінаў» (вуч. дапаможнік для студэнтаў. Мн., 1979, Харкаў, 1986, 1987). Аўтар вуч. дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ: «Зборнік задач па статыстычнай фізіцы» (1979, з В.М. Варыкашам і В.В.Аксёнавым, 1979), «Метады матэматычнай фізікі» (1988, з В.К.Гронскім і А.А.Бейдам), метадыч. дапаможніка для настаўнікаў «Адзінкі фізічных велічыняў у школе» (1983, з С.Л.Вальштэйнам).

Пасля 1929 г., калі выйшаў «Слоўнік фізічных тэрмінаў» А.Ю.Міцкевіча, А.І.Болсун стварыў і выдаў першы на беларускай мове «Слоўнік фізічных і астранамічных тэрмінаў» для школы. Ужо гэтым ён увайшоў у гісторыю беларускай навукі. Але перш чым высветліць, што падштурхнула аўтара рабіць такі слоўнік, успомнім, адкуль у А.І.Болсуна такія паважлівыя адносіны да беларускай мовы, што паўплывала, кажучы модным цяпер тэрмінам, на фарміраванне ў Аляксандра Іванавіча беларускага менталітэту ці, прасцей, беларускай нацыянальнай свядомасці.

**Першаю яго настаўніцай тут была, відаць, баба Соня. Найперш ад яе маленькі** Саша пастаянна чуў чыстую беларускую народную гаворку, слова ядранае, сакавое, крамянае. Соф'я Пятроўна была родам з Браншчыны. Роднае слова яна прынесла з сабою ў вёску Балсуны непадалёку ад Чачэрска, куды выйшла замуж за мясцовага хлопца Міколу Болсуна, Сашавага дзеда.

Ад бабы Соні чуў Аляксандр Іванавіч: «А ці даць табе, унучак, **любовага** салца?» Думаў: «А, гэта, відаць, такога смачнага, якое ўсе любяць?» Бо яно з мяском, з парасцёлам, а не проста белае. Чуйнае вуха дапытлівага хлопчыка ўлавіла і памяць зафіксавала яго на ўсё жыццё, што баба Соня праснак — **пякла**, а ячнюю — **прагла**. Так нязмушана нават незаўважна, даходзіла да малога роднае слова, яго водар і смак.

У школе асабліва запомніліся ўрокі настаўніцы Фаіны Рыгораўны Безбародкінай. Як яна прыгожа гаварыла пабеларуску, як задушэўна, пранікнёна чытала вершы Купалы і Коласа! І да сённяшняга дня Аляксандр Іванавіч помніць дзіцячае ўражанне ад паэмы «Курган» Я.Купалы. Як складна, звонка, дзівоснай музыкай, створанай беларускім словам, мілагучна, узнёсла і трывожна гучала гэта рамантычная паэма-балада ў душы хлапчука, калі яе чытала настаўніца.

У 1947—49 гадах А.І.Болсун жыў у Заходняй Беларусі (Гудагай, Свір, Ашмяны, дзе бацька працаваў у леспрамгасе). У адрозненне ад гаворкі Чачэрска і яго ваколіц з тамтэйшай моўнай размытасцю, перакручваннем рысаў розных дыялектаў, з амаль негатыўным стаўленнем некаторых да беларускай мовы, тут, у Заходняй Беларусі, школьнік Саша Болсун заўважыў іншае: гаварылі не так, як у яго на радзіме, да мовы ставіліся, як да свайго, роднага, што нядаўна забаранялася польскімі ўладамі. Здавалася нават, што мова тут больш беларуская, чым на Чачэршчыне. Але з іншымі лексемамі, іншымі канчаткамі, формамі. Гэта моўная кантраснасць паўплывала на стаўленне юнака да самой беларускай мовы. Зразумеў, што гэта тая самая мова, беларуская, абсалютна зразумелая, але ёсць у розных мясцінах свае асаблівасці. І ў гэтым, адчуў падсвядома, свая самабытнасць, адметнасць, разнастайнасць, нават свая прыгажосць.

Пасля аспірантуры працаваў у адной з лабараторый Інстытута фізікі. Непасрэдны начальнік у лабараторыі Б.В.Бокуць, тады яшчэ не акадэмік, чалавек высокаадукаваны, інтэлігентны, быў ініцыятарам семінараў па гісторыі Беларусі. Тады, у канцы 1960-х гадоў, гэта было нават нязвычна. Усе ж ведалі, што М.С.Хрушчоў у размове з К.Т.Мазуравым заявіў, што калі беларусы забудуць сваю і авалодаюць дасканала расійскай мовай, то першыя прыйдуць да камунізму. А тут семінары па гісторыі Бацькаўшчыны! Яны, нягледзячы на адпаведны змест і ідэалагічную афарбоўку, без якой тады нельга было, па-свойму ўсё ж выхоўвалі нацыянальную свядомасць навукоўцаў-фізікаў. Хто я на гэтай зямлі? Узнікала ж такое пытанне перад людзьмі падрыхтаванымі, людзьмі, якія ўмелі аналізаваць не толькі фізічныя з'явы. Як я павінен адносіцца да гэтай зямлі, гэтага краю, яго людзей, яго гісторыі, культуры і мовы? Так спакваля спела думка пра самога сябе. Калі я беларус, то маю сваю мову і павінен яе шанаваць, а не таптаць, як гэта рабілі тады і робяць цяпер многія манкурты.

І вось настаў 1967 год. Была створана Галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Б.В.Бокуць выклікаў да сябе А.І.Болсуна і прапанаваў яму ўзначаліць у БелСЭ рэдакцыю фізікі, хіміі, матэматыкі і астраноміі. Гэта чарговы этап у далучэнні Аляксандра Іванавіча да беларушчыны. Этап, можна сказаць, лёсавызначальны, этап вышэйшага як дасюль узроўню. Вядомыя пісьменнікі П.У.Броўка — галоўны рэдактар, Ян Скрыган — на чале літаратурна-кантрольнай рэдакцыі, Валянцін Рабкевіч — чуйны да роднага слова чалавек з рэдакцыі літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі, Міхась Клышка — супрацоўнік літаратурна-кантрольнай рэдакцыі, пазней аўтар першага ў беларускай лінгвістыцы «Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў». Шмат дала работа ў Тэрміналагічнай камісіі пад кіраўніцтвам К.Крапівы. **Як загадчык рэдакцыі Аляксандр Іванавіч стаў членам** Тэрміналагічнай камісіі. Ён склаў слоўнік 12-томнай БелСЭ па ўсіх навуках, якія рэдагавала яго рэдакцыя і якія трэба было як найпаўней адлюстраваць у першай на беларускай мове энцыклапедыі беларускага народа. Сябры, калегі падтрымлівалі, абнадзейвалі, раілі, разам абмяркоўвалі. Актыўна памагалі вучоныя: Г.І.Гарэцкі, М.М.Ганчарык, А.С.Вечар, Ф.І.Фёдараў, П.Ф.Глебка і інш.

Да сённяшняга дня ў кабінеце Аляксандра Іванавіча вісіць партрэт Яна Скрыгана. Гэта быў наш калега, наш духоўны бацька, настаўнік што да абыходжання са словам, старэйшы таварыш. З ім заўсёды цікава было пагаварыць, параспрацаваць, дайсці да сутнасці пэўнай ісціны. Яго моўнае чуццё, а яно пераважна было абсалютным (успомнім толькі адно слова «свідравіна», вылічанае, адшуканае, укаранёнае Я.Скрыганом, якім усе цяпер карыстаюцца, думаючы, што яно было ў нашай мове спрадвеку), дапамагала адшукваць моўную ісціну там, дзе яна была схавана, — у глыбінях народнай памяці, у нетрах народнага слова, неабдымна багатых, шчодрых, шматколерных і шматфарбных.

Скрыганову навуку добра засвоіў А.І.Болсун. Ён добра разумее, што мова — гэта сістэма са сваімі ўнутранымі законамі, спецыфічным ладам, структурай. Таму ён кажа, што яго погляды на распрацоўку тэрміналогіі крыху кансерватыўныя. Але ж папраўдзе гэта ніякая не кансерватыўнасць, а няспешнасць, абачлівасць, асцярожнасць, імкненне дайсці да глыбіньсэнсу з'явы, закона, паняцця, высветліць поўны змест тэрміна, яго нюансы і асаблівасці, дэталі і адценні. Ён не хоча апынуцца ў становішчы таго навукоўца, які нядаўна прапанаваў замяніць старую назву *радыя* на *ліхій* (сапраўды стаў ліхам для нашага народа пасля Чарнобыля), але не сказаў, як тады будзе называцца *радыяцыя*.

Яшчэ адзін момант мне ўяўляецца важным, калі я думаю пра беларускасць і нацыянальную самасвядомасць фізіка А.І.Болсуна. Ён любіць народную песню, сам добра спявае, хоць жыццё нашатакое, што рэдка даводзіцца цяпер і паспяваць. Гэта, па-мойму, яшчэ раз сведчыць пра яго высокую мараль, пра тое, што ён, выхаваны на любові да народнапаэтычнага слова, якое нясе высокамаральныя, гуманістычныя ідэалы, выспеліў у сваёй душы тую дабрыню і чалавечнасць, якую месціць у сабе наша народная песня, і тую пашану да нашага мілагучнага, звонкага, пявучага слова, якое нам, беларусам, самае прыгожае ў свеце.

Пайшоўшы на педагагічную работу, перакладаючы на беларускую мову маскоўскія школьныя падручнікі па фізіцы, матэматыцы і астраноміі, Аляксандр Іванавіч адчуў, наколькі нашай школе патрэбен свой, беларускі слоўнік асноўных фізічных і астранамічных тэрмінаў. Зрабіў яго. Будучы неблагім знаўцам беларускай мовы, ён усё ж узяў сабе за сааўтара Яўгена Нічыпаравіча Рапановіча, філолага, ды і былога калегу па энцыклапедыі. Слоўнік утрымлівае каля 2000 тэрмінаў, што нейчасцей трапляюцца ў навучальнай, навукова-папулярнай і навуковай літаратуры.

З 1992 г., на адраджэнскай хвалі, Болсун пачаў выкладаць фізіку па-беларуску ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Цікава, што (гэта словы Аляксандра Іванавіча) студэнты не маюць ніякіх цяжкасцей з засваеннем матэрыялу па фізічных дысцыплінах на беларускай мове. Гэта мы прывыклі чуць ад манкуртаў, быццам на беларускай мове нельга ствараць навуку. Можна! Што добра даказвае вопыт і практыка А.І.Болсуна.

Але працэс выкладання толькі тады будзе дзейсны і эфектыўны, калі студэнты будуць забяспечаны і адпаведнымі падручнікамі, метадычнай літаратурай, слоўнікамі на беларускай мове. Пакуль такія дапаможнікі не створаны, А.І.Болсун падрыхтаваў «Руска-беларускі фізічны слоўнік». У ім ужо больш за 5000 тэрмінаў. Тут падсумавана і праца ў энцыклапедыі, і работа над школьным слоўнікам. У іх аўтар імкнуўся праводзіць тыя ж прынцыпы, якія былі закладзены ў рабоце Тэрміналагічнай камісіі БелСЭ: шукаць такія словы і формы, якія адпавядалі б духу беларускай літаратурнай мовы, яе ўнутраным законам, поўнасцю раскрывалі сутнасць тэрміна. Цяжкасцей тут, вядома, хапае. Але аўтар іх пераадольвае. Як на ўдалыя знаходкі, можна спаслацца на такія прыклады: *двигатель — рухавік, движитель — рухач, измеряемая величина — вымерная велічыня, вымяральная велічыня* (часта аўтар дае сінонімы, спадзеючыся, што катэгарычнасць тут не да месца і чытач сам выбера найбольш прымальны, найбольш аптымальны варыянт), *дочернее ядро — патомнае ядро, делящееся ядро — падзельнае ядро, ядро, якое дзеліцца, возмущение — узбурэнне, узрушэнне, вращение — вярчэнне, аварот* (цікавы варыянт для перадачы **павольнага вярчэння** ў адрозненне ад хуткага працэсу, які аўтар перадае тэрмінам «вярчэнне») і г.д.

З 1 верасня А.І.Болсун выкладае фізіку на беларускай мове студэнтам-першакурснікам. У аўдыторыю ўваходзіць чалавек, які дасканала ведае свой прадмет, можа растлумачыць былым школьнікам сутнасць любога фізічнага працэсу, з'явы, закона аб'ёмна, даступна, па-навуковаму дакладна і грунтоўна не толькі таму, што ён вопытны, з 25-гадовым стажам педагог, але і таму, што ён сам даследчык, вучоны, энцыклапедыст. Трэба спадзявацца, што яго падапечныя будуць пасля ўспамінаць, як іх на беларусаў выхоўваў Аляксандр Болсун.

Закончыць хочацца пажаданнем юбіляру. Дарагі дружа! Дазволь шчыра і сардэчна пажадаць табе найперш сілы-моцы на доўгія гады, здзяйснення планаў і задум, спору і плёну ў працы, а таксама і надалей быць такім жа пабеларуску сціплым і годным, як і дагэтуль (хто чуў, каб А.І.Болсун хваліўся, што ён аўтар і сааўтар амаль 50 навуковых прац і 12 кніг, пра гэта, па-мойму, не ведаюць нават у яго рэдакцыі), падзякаваць за дружбу і сяброўства, за тую светлую аўру, якую выпраменьвае твая асоба, ад якой добра сябе пачуваеш, якая нясе спакой, развагу, спагаду, добразычлівасць, сяброўскую падтрымку (кажучы па-праўдзе, мы, мужчыны, неякадвыклі гаварыць такое адзін аднаму), парадавацца, што побач ідзе сапраўдны сын народа, патрыёт, інтэлігент, шчыры, свядомы беларус, а такія людзі ў нашай нацыі на ўліку, якія разумеюць, што такое народ для яго і ён для Айчыны, парадавацца. Светла, нават крыху ўзнёсла думаючы, што калі ёсць сярод нас такія людзі, то будзе жыць наша Бацькаўшчына, будзе ісці наперад і ў культуры, і ў навуцы, і ў нашай супольнай энцыклапедычнай справе, што не вечнае панаванне на нашай прыгожай зямлі цёмных сіл (няхай на іх радзімец, як казала баба Соня).

**Янка САЛАМЕВІЧ.**

